

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№18 (182) СНЕЖАНЬ 2014 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## НАЗАД У ЗМРОЧНЫЯ ЧАСЫ

*"Наша нация глубоко и тяжело больна. Процесс выздоровления идет медленно и трудно, с опозданием в осознании происходящего. Но этот процесс необратим, так как нет другого пути развития нации из исторического небытия, как возрождение. Возрождение или умирание.*

***Зянон Пазняк " О русском империализме и его опасности". (1994 г.)***

**Усталяваньне ў Шуміліне бюста генералу Паўлу Мельнікаву – чарговая перамога " рускага сьвету".**

Наведайце сайт шумілінскай раённай газеты і не пашкадуйце часу, каб прачытаць чытацкія каментары да двух разьмешчаных там матэрыялаў "Адкрыты помнік Паўлу Мельнікаву" і "Работа ідэолягаў з новым пакаленьнем беларусаў не будзе эфектыўнай без сучасных падыходаў". Такога даўно не было, каб разьмешчаныя тэксты выклікалі гэткую бурную рэакцыю наведнікаў. Паспрабуем разабрацца пра матывы гэткай рэакцыі.

Можа чытачы і не звярнулі ўвагі на цесную сувязь паміж гэтымі тэкстамі, але яна існуе. Ну, падумайце самі, хіба можа ў сучаснай Беларусі ўсталяваньне помніка не быць часткай дзяржаўнай ідэалёгіі? Хаця якая там ідэалёгія? Каб займацца ідэалёгіяй, трэба мець хоць якія аб'ектыўныя веды, а не набор савецкіх ды расейскіх ідэалягічных штампаў. Да таго ж, як вынікае з выказваньняў міністра інфармацыі, яны пачынаюць даваць збой: " вырасла новае пакаленьне беларусаў", якім, трэба разумець, што вайна, што ветэраны, што маці родная. Але ж новае пакаленьне – плод дзеяньня савецкіх ідэалягічных установак, што дасюль стаяць на ўзбраеньні цэлай арміі ідэалагічных рэкрутаў.

Вось, што пісаў дваццаць гадоў таму пра ўсю гэтую публіку (а па сутнасці нічога ж не памянялася) Зянон Пазьняк: "У них нет ни самостоятельной политики,ниэкономическойконцепции, ни перспективы государственного развития Беларуси, ни смысла государственного существования. Они медленно тонут и пытаются лишь растянуть это падение, чтобы успеть обогатиться и отсрочить конец".

Ну, навыдумлялі яны такія-сякія рэцэпты дзеля свайго нябеднага існавання, але гэта ўсё на што яны здатныя. Рэцэпты тыя не працуюць. Працуе інэрцыя, абыякавасьць і запалоханасьць тутэйшага грамадства. Як зазначае ў каментарах да тэксту наведнік Алесь: "Молодёжь газет вообще не читает. Никаких. И читать не собирается. Живут беларусы – каждый сам по себе, со своим царём в голове. Аморфное население в большинстве своём вместо европейского народа". Думаючыя людзі ўсё гэта добра разумеюць, астатнія застаюцца бязмоўнымі.

На гэтым спынімся і пяройдзем да аналізу факта ўсталявання бюста расейскаму генералу Мельнікаву Паўлу Пятровічу. Трынаццаць каментароў дадалі чытачы да размешчанага на сайце раёнцы тэксту, прычым толькі два зь іх даюць станоўчую ацэнку здзейсненаму.

Наведнік Георгій выказаў думку, якую мусіць асэнсаваць кожны. Гэта крык душы, пакрыўджанага нацыянальнага пачуцця:"Шаноўныя! Падумайце сваім розумам: няўжо ў нас бракуе сваіх герояў, якія штосьці зрабілі ў родным краі?

Хто такі Мельнікаў? Звычайны царскі служка, які рабіў у КАЛАНІЯЛЬНЫМ СЕВЕРО-ЗАПАДНОМ КРАІ тое, што загадвала імперыя.

Давайце лепш паставім у нас помнік расейскаму імператару, любому. За іхні клопат аб нас з вамі.

Няўжо і сапраўды няма ў нас ні памяці, ні гонару?"

Наведнік Местный разгортвае далей выказанае Георгіем і тлумачыць прычыны існага бяспамяцтва:"Пра якую тут памяць ці гонар можна размауляць? Што у нас ёсць у Шуміліне??? Страшны чорны Ленін, якім можна пугаць дзяцей. Па ўказаньні якога зьнішчалі цэрквы. І практычна насупраць яго будуецца на народныя грошы царква з сінім дахам… Цяпер яшчэ дабавіўся прарасейскі чыноўнік. Не проста ж так у Віцебску расейскія сцягі раздаюць за бясплатна. Не засталося нічога святога. Адзін сімвал страшнейшы за другі".

І калі ў Шуміліне "бракуе сваіх герояў", то ў суседнім Гарадку іх, відаць, праз меру: нарэшце ў лістападзе ў горадзе быў дэмантаваны помнік, прысвечаны Тарасу і вядомай беларускай сатырычнай паэме "Тарас на Парнасе", створанай у XIX стагодзьдзі выхадцам з Гарадоцкага раёну Канстанцінам Веранiцыным. Манументальная кампазіцыя, якую ўсталявалі ў верасні да абласнога фестывалю "Дажынкі", прастаяла ў гарадзкім парку ўсяго два месяцы.

Дэмантаж быў здзейсьнены прадстаўнікамі ТАА "Ліцейны двор"– мінскім прадпрыемствам, якое выканала работы па вырабу скульптуры. Справа ў тым, што аддзел ідэалагічнай работы райвыканкаму мусіў быў 12 кастрычніка заключыць асноўную дамову на набыцьцё помніка і аплаціць выкананую працу, што не было зроблена.

Дзве пададзеныя вышэй падзеі даволі сімптаматычныя і сімвалічныя: чужы герой (П.П. Мельнікаў) становіцца часткай існай тут рэальнасьці, а палясоўшчык Тарас, вядомы кожнаму беларусу яшчэ са школы, праз неахайнасьць улады, а найперш аддзелу ідэалагічнай работы райвыканкаму, застаецца незапатрабаваным існай тут рэчаіснасцю. Атрымоўваецца, што гэтак званы "рускі сьвет" выбудаваны рукамі і скажонай свядомасьцю мясцовых манкуртаў, перамагае нацыянальную свядомасьць.

Здаецца, а што тут такога? А нічога: спачатку "рускі сьвет" прыходзіць у галовы,усвядомасць,усветаадчуваньне, а затым прыходзяць танкі, "зялёныя чалавечкі" і многа ці мала крыві, у залежнасьці ад ступені супраціву ці калябарацыянізму.

Пазняк казаў пра небясьпеку "рускага імперыялізму" яшчэ дваццаць гадоў таму, украінцы зразумелі гэта сёлета, а тутэйшае жыхарства ніяк не можа вызначыцца, хто яны такія, якая мова для іх родная і каго акрамя бацькоў і прашчураў мусяць яшчэ шанаваць беларусы.

**Аляксандр Шчамлёў**



НАВАГОДНЯЕ СВЯТА

## У НОВЫ ГОД З ЛЯСНОЙ ПРЫГАЖУНЯЙ

**23 снежня ў райцэнтры Шуміліна адбылося ўрачыстае адкрыццё навагодняй елкі.**

Кожны год напярэдадні навагодніх святаў дзесьці ў сярэдзіне снежня па традыцыі ў Шуміліне ўстанаўліваецца прыгажуня-ёлка. Стройная, высокая, аздобленая мноствам рознакаляровых ліхтарыкаў, яна ўсім узнімае настрой і радуе вочы прахожых. Ля лясной прыгажуні з задавальненнем весяляцца і дарослыя, і дзеці.

Перадусім лясную прыгажуню ўжо ўстанавілі ў гарадскім парку работнікі камунгасу. Пакуль што у нашым раёне не цяжка адшукаць прыгожую вялікую ёлку. Праўда, яе складана вывесці (елка была ссечана на тэрыторыі Дабейскага сельсавета), пры транспарціроўцы ламаюцца галіны, і яна значна губляе сваю прыгажосць. Аднак плюсавая тэмпература паветра паспрыяла, каб галіны елкі менш ламаліся.

Вышыня елкі складае 20 метраў. Некаторым цікава, якім чынам елку ўдаецца замацаваць. Рабочыя-мантажнікі патлумачылі, што ствол дрэва абпілоўваецца, а затым устаўляецца ў спецыяльную трубу. Да ствала з некалькіх бакоў падвешаны расцяжкі, якія злучаюцца з убітымі ў зямлю расцяжкамі. Такім чынам ёлка замацоўваецца больш-менш надзейна і дрэва вытрымлівае моцныя парывы ветру.

І гэта яшчэ не ўсё. Жыллёва-камунальная гаспадарка закупіла да новага года новыя гірлянды для ўпрыгожвання шумілінскіх вуліц і гарадской ёлкі. Навагодняе ўбранства абышлося ў 130 мільёнаў рублёў. Новыя гірлянды ўпрыгожваюць вуліцы Кароткіна і Луначарскага, а навагоднюю ёлку ў гарадскім парку аздобілі новымі каляровымі шарамі і падсветкай. Урачыстае адкрыццё ёлкі плануюць правесці 23 снежня.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

## SMS-МАХЛЯРСТВА

**31-гадовая жанчына з райцэнтра атрымала СМС з паведамленнем, што яна нібыта выйграла аўтамабіль. Папярэдне заплаціўшы за дастаўку 1,5 мільёна рублёў, паехала ў Віцебск за прызам, але па ўказанаму адрасу знайшла дзіцячы садок.**

Як паведаміла афіцыйная прадстаўніца упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, у пачатку снежня ў Шумілінскі РАУС ад 31-гадовай жыхаркі раённага цэнтра паступіла заява аб тым, што невядомы злачынца махлярскім шляхам завалодаў яе грашамі.

Пацярпелая расказала, што на нумар яе мабільнага тэлефона прыйшло СМС-паведамленне аб тым, што жанчына стала ўладальніцай прыза. Для ўдакладнення абставінаў атрымання выйгрышу ёй неабходна звярнуцца па ўказаны ў паведамленні афіцыйны сайт расійскай кампаніі, якая праводзіць розыгрышы сярод усіх абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі. На сайце пацярпелая знайшла ў спісе пераможцаў акцыі свой нумар.

Звязаўшыся з прадстаўнікамі кампаніі па мабільным тэлефоне, жанчына атрымала парады, якім чынам яна можа забраць выйграны ёю аўтамабіль або атрымаць грашовую кампенсацыю. Для гэтага ёй неабходна або тэрмінова прыехаць у Маскву, што яе не задаволіла, або перавесці грошы за дастаўку прыза на пэўны рахунак, а затым прыехаць у Віцебск па адрасе, куды, паводле слоў прадстаўніка кампаніі, будзе дастаўлены прыз.

Выканаўшы ўсе ўмовы, у тым ліку адправіўшы прыблізна 1,5 млн рублёў на невядомы рахунак, жанчына прыехала атрымаць падарунак. Аднак па ўказаным адрасе ў Віцебску знайшла дзіцячы садок. Спробы звязацца з прадстаўнікамі кампаніі да выніку не прывялі, таму што тэлефоны злачынцаў былі выключаныя.

Па гэтым факце Шумілінскім раённым аддзелам Следчага камітэта Беларусі распачатая справа на падставе арт. 209 КК (махлярства). Праводзіцца комплекс следчых дзеянняў, скіраваных на ўстанаўленне вінаватай асобы.

**"Наша Ніва"**

СОЦЫУМ

# "ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ Я ЎЖО ПАМЁР..."

**У Шумілінскім раёне пажылыя людзі жывуць "суполкай" – з'язджаюцца на зіму парамі і часова прыбіраюць межы паміж горадам і вёскай.**

Для старых няма страшней пажадання: "Каб ты ўсё жыццё адзін быў!". Бо нават калі ў чалавека няма ні дзяцей, ні ўнукаў, ён усё роўна спадзяецца, што знойдзецца такі ў гэтым жыцці родная для яго душа. Будзе з кім падзяліць гора і радасць. А яшчэ – разам перажыць страшную для старасці зіму. З бязлітаснай завірухай за акном і замеценых за ноч дарогамі...

Каб убачыць, як зімуюць адзінокія пенсіянеры, адпраўляемся на Шуміліншчыну. Месца для рэпартажу выбрана не выпадкова: кожны трэці жыхар раёна дасягнуў пенсіённага ўзросту, каля 5 тысяч чалавек маюць тут статус адзінокіх.

– Так, сітуацыя пагаршаецца, – сустракае мяне ў тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва дырэктар Валянціна Штуро. – Колькасць падапечных расце, прыходзіцца павялічваць штат сацработнікаў. Зараз на абслугоўванні – больш за 500 чалавек, 33 з іх – ляжачыя. У раёне каля 230 аддаленых вёсак, прыкладна ў кожнай трэцяй пражывае менш за 10 чалавек.

Разам з Валянцінай Штуро і загадчыцы аддзялення сацыяльнай дапамогі дома Яфіміяй Сяньковай едзем у Мікіціху.

Пяціпавярхоўка, у якой створаны дом сумеснага пражывання для непрацаздольных грамадзян, знаходзіцца ў цэнтры аграгарадка. Бабуль і дзядулю, якія пасяліліся ў пяці сацыяльных кватэрах, збіралі па ўсёй акрузе. У кагосьці зусім прыйшоў у непрыдатнасць дом, а хтосьці проста ўжо не змог жыць адзін у выміраючай вёсцы.

– Гасцей я заўсёды люблю, – гасцінна сустракае нас у ўтульнай кватэрцы мілавідная жанчына, якая ну ніяк не цягне на пенсіянерку. - Заходзілі бы часцей, мне весялей было б.

Задаваць з парога пытанні неяк некарэктна. Але потым я разумею, чаму сярод пажылых людзей апынулася 46-гадовая Валянціна. Яна інвалід з дзяцінства. Пакуль была жывая бабуля, жыла ў вёсцы. Потым засталася адна, і сацработнікі аддалі нямала часу і сіл, каб пераканаць яе ў неабходнасці пераезду. Цяпер іх падапечная ўсім задаволена: як і да астатніх пастаяльцам,даяепрыходзіць сацработнік, дапамагае па гаспадарцы.

– Пенсія невялікая – 1,8 мільёна, – распавядае Валянціна. – Але я вось купіла шпалеры, наняла людзей і зрабіла рамонт. Мэбля ўсю сабе "пад рост" падагнала. Машыну пральную ў растэрміноўку набыла. Цяпер вось на наўтбук збіраю - трэба для зносін. Можа быць, новых сяброў знайду.

Планаў у нашай гераіні шмат, баіцца толькі, што пакуль назапасіць грошай на кампутар, ён падаражэе. Валянціна Штур абяцае ёй матэрыяльную дапамогу.

Бабуля жыве ў сацыяльнае жыллё, а ўнукам аддае пенсію

У пакой да Валянціне, даведаўшыся пра гасцей, паволі збіраюцца астатнія падапечныя. Ім цікава даведацца, калі вернуць адзінага ў іх "клубе" мужчыну – весялуна Віктара Захаравіча.

– Штож вы за ім не дагледзелі, – жартуе Яфімія Сянькова.

– Казала ж вам: беражыце! Увесну ўбачыце. Зараз яму з пераломам шыйкі сцягна ў аддзяленні кругласутачнага знаходжання будзе ямчэй. Хоць рвецца дадому, рвецца... Ужо каля ложка сам варта, так што не хвалюйцеся.

Бабулі рады, але нагадваюць: вы ж толькі, калі, не дай Бог, што – яго дачку не турбуйце! Віктар Захаравіч, з'яжджаючы ў бальніцу, строга казаў: пра смерць не паведамляць ні дачкі, ні ўнукам. Моцна на іх пакрыўдзіўся за тое, што з хаты выгналі.

Паволі з абмеркавання апошніх навін, тэлесерыялаў і кулінарных шэдэўраў размова перамыкаецца на сваякоў. Усе пенсіянеркі сваіх блізкіх абараняюць. І нават... ганарацца!

83-гадовая Тамара Сцяпанаўна пахавала траіх сыноў. Застаўся адзін, ён жыве на Поўначы. Ёсць сямёра ўнукаў і двое праўнукаў. Усе добрыя, вось толькі часу на бабулю не хапае. Тут, сярод суседзяў, яна лічыцца "мільянершай" – за доблесную працу ў маладыя гады атрымлівае звыш трох мільёнаў пенсіі. Прызнаецца: грошай больш чым дастаткова.

Хапае пенсіі, хоць яе сума і значна менш, і суседцы Тамары Сцяпанаўны. Яна тут самая жвавая - раз-пораз ўцякае. То паштальён, маўляў, павінен падысці, то лекара нельга праваронію - дакторка павінна абавязкова яе ў шпіталь пакласці.

– Бранхіт ў мяне, – наракае доўгажыхарка.

Я ціхенька дзіўлюся: за паўтары гадзіны зносін пенсіянерка ні разу не кашлянула.

Прадстаўнікі сацслужбы усміхаюцца: няхітрыя хітрасці бабулі ўжо вядомыя ўсім. У бальніцы яна ляжыць часцяком, а ў дом сумеснага пражывання стараецца патрапіць усімі праўдамі і няпраўдамі, сама сабе ставіць дыягназы. Падазраюць, што такім чынам эканоміць пенсійнае забеспячэнне.

Бабуля не хавае: "лішкі" фінансаў раздае дваім дзецям і 16 унукам, праўнукам і прапраўнукам. У той жа час у сціплым жыллё пенсіянеркі якія адсталі шпалеры вісяць шматкамі – зрабіць хоць нейкі рамонт няма каму.

Сацработнік стамілася падклейваць-падмазваюць сцены сацыяльнага жылля, трымаць у парадку якое па правілах павінны самі кватэранаймальнікі.

Цікава, а шматлікія сваякі, якія нібыта клічуць не даклікаюцца да сябе бабулю, тутбываюць? Нажаль, пытанне з разраду рытарычных ...

Едзем далей - знаёміцца з іншымі новаўвядзеннямі ў абслугоўванні пажылых людзей.

У "хатах зімоўкі" здараюцца раманы.

– У спецыяльна створаных дамах зімоўкі ў нас цяпер жывуць 8 чалавек. Людзі збіраюцца на зіму ў адным доме, а летам раз'язджаюцца. Калі раней гэта былі ў асноўным бабулі, то цяпер ужо ёсць тры "сямейныя" пары, – здзіўляе Валянціна Штуро. – Вось 81-гадовы Ігнат Улдукіс на зіму перабіраецца ў гарадскую кватэру 75-гадовай Раісы Грачухінай з Обалі. А ўлетку яна едзе да яго ў вёску, за 5 кіламетраў ад пасёлка. Так і жывуць.

Не ўяўляюць, як перажыць зіму адзін без аднаго, яшчэ двое – Пётр Пашкоўскі з Заложнага і Надзея Волкава з Красамая. Абодвум за 80. Бабуля на зіму перабіраецца ў больш цёплы дом свайго таварыша, а той з кожным годам усё больш баіцца, што аднойчы яна адправіцца зімаваць да дачкі-банкіркі пад Маскву.

Па суседству з імі жыве Ганна Гаравая - яна зімуе разам з адзінокім Мікалаем Шпарвассэрам з Шуміліна.

– Вы не думайце, што так лёгка звесці цалкам розных людзей. Нават на зіму, хоць таго ж сацработнікі прасцей абслугоўваць іх у адным доме. Нядаўна вось у гэтай вёсцы родных сясцёр па розных кутках развозілі – не зжыліся, і ўсё тут. Адна есць цукеркі, а другая любіць селядзец. На гэтай глебе і пасварыліся ў пух і прах, - у Яфіміі Сяньковай мноства гісторый пра сваіх падапечных.

Сацыяльныя работнікі ведаюць усе звычкі і перавагі падапечных. Прызнаюцца, што гэта выдатна дапамагае ў зносінах з імі.

– А што ў вашай працы самае цяжкае? – Без адказу на гэтае пытанне неяк няправільна развітвацца пасля знаёмства з такімі кранальнымі жыццёвымі гісторыямі.

– Абыякавасць. Банальная чалавечая абыякавасць, – Валянціна Штуро ўжо сядае ў "Ніву" з надпісам "Сацыяльная служба" – яе чакаюць пацыенты аддзялення кругласутачнага знаходжання састарэлых у Мішневічах. – Паверце, гэта вельмі страшна, калі нашы падапечныя кажуць: "Вы толькі дзецям і ўнукам пра маю смерць нічога не паведамляйце: я для іх ужо даўно памёр...".

**Паліна Осокіна**
**TUT.BY**

КРЫМІНАЛ

# БЯДУ ЛЕПШ ПАПЯРЭДЗІЦЬ, ЧЫМ ВЫПРАЎЛЯЦЬ

**Шумілінскія ратавальнікі сумесна з работнікамі міліцыі, педагогамі, урачамі і прадстаўнікамі мясцовай улады працягваюць праверку гатоўнасці дамоў раёна да зімняга сезона.**

На гэты раз рэйдавая група наведала аграгарадок Мікіціха і вёску Добрына Лаўжанскага сельсавета. Трэба сказаць, што пытанне выканання насельніцтвам, асабліва тым, якое пражывае ва ўласных дамах, правілаў пажарнай бяспекі на сённяшні дзень з'яўляецца вельмі актуальным. Пры гэтым асаблівая ўвага інспектараў была нададзена да патэнцыйных парушальнікаў: нядбайных сем'яў, гаспадароў, якія злоўжываюць алкаголем. пад пільным кантролем таксама знаходзяцца і шмадзетныя сем'і.

Падчас праверкі ўладальнікам указваюць на выяўленыя недахопы, а таксама ўручаюць памяткі з пералікам таго, што трэба зрабіць для іх ухілення. Спецыялісты пажарнага нагляду распавядаюць насельнікам аб небяспецы пакідання ацяпляльных прыбораў без нагляду, недапушчальнасці іх эксплуатацыі ў няспраўным стане.

І нездарма, бо часта выяўляюць няспраўную праводку, адсутнасць пажарнага апавяшчальніка, вялікую пагрозу ўзнікнення пажару ўяўляюць сабой няспраўныя пробкі ў электралічыльніках. Асобныя ўмельцы ўстанаўліваюць у іх "жучкі" і працягваюць эксплуатаваць далей. Але ў выпадку кароткага замыкання электраправодкі такая пробка не адключыцца, провад пачне награвацца і адбудзецца ўзгаранне. Апроч таго, быў праверана стан электраабсталявання і газабалонных установак.

Як паказала практыка, неабходна загадзя паклапаціцца аб тым, каб не здарылася бяды, не азмрочылася свята. У пераднавагодні час рэзка павялічваецца колькасць пажараў і траўмаў з-за парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры падрыхтоўцы да святаў. Многія неасцярожна абыходзяцца з піратэхнічнымі вырабамі. Бездакназнасць – тыповая прычына пажараў.

**Сяржук Горкі**

З ЗАЛЫ СУДА

# СЯМЕЙНАЕ НАСІЛЛЕ

**Вынесены прыговор непрацуючаму 36-гадоваму мужчыну, які ў нецвярозым стане збіваў дома родную маці.**

Ганебны выпадак рукапрыкладства дарослага сына ў адносінах да маці-пенсіянеркі разглядаўся на выязным судзе Шумілінскага раёна ў будынку Светласельскага сельвыканкама.

Як вядома, цывілізаванасць грамадства вызначаецца па тым, як у ім ставяцца да старых. У цэлым па раёну людзі стараюцца прытрымлівацца агульнапрынятым нормам маралі, аднак, на жаль, сустракаюцца асацыяльныя асобы, якія дазваляюць сабе падняць руку нават і на родную маці.

Грамадзянін В., які пабіў сваю маці, нягледзячы на сталы ўзрост, пастаяннай працы дагэтуль не набыў. Мужчына ў асноўным існаваў на пенсію маці (якая яшчэ і працавала на ферме) ды выпадковыя падпрацоўкі, а грошы звычайна траціў на спіртное, якім злоўжываў.

Але падобнае бязладдзе да дабра ніколі не прыводзіць. У адзін з вечароў дзяцюк вярнуўся дадому моцна выпіўшы, прычапіўся да айчыма. Калі маці стала заступацца - успыхнула сварка. У парыве гневу сын накінуўся з кулакамі і пачаў збіваць сваю 56-гадовую маці. Жанчыне стала дрэнна, і суседка выклікала "хуткую дапамогу" - не паставілася абыякава да чужой бяды. Згодна з заключэннем медыцынскай экспертызы, пацярпелая атрымала ад сына пералом носа і іншыя траўмы.

На судзе высветлілася, што дэбашыр злоўжывае спіртным з 21 года. Мужчына цалкам прызнаў сваю віну і раскаяўся, а маці за сына прасіла, каб таго ўсё ж такі строга не пакаралі. І сапраўды, яго пашкадавалі. Суд прызначыў абвінавачанаму ўсяго толькі 240 гадзін грамадскіх работ.

Паводле старшыні суда Шумілінскага раёна А. А. Сініцкай, у цяперашні час праявы сямейнага насілля сярод насельніцтва раёна даволі частыя. Аднак да суда такія справы даходзяць рэдка.

## АБ'ЯВА

• ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

• ***Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

• ***Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

“ЧОРНАЯ ПЯТНІЦА”

# ВАЛЮТА: БЕЛОРУСЫ ОСМЫСЛИВАЮТ ОПЦИЮ +30%

**Белорусы чешут затылок, пытаясь осмыслить, что же произошло с деньгами. Налицо когнитивный диссонанс. Формально девальвация не объявлена, но де-факто доллары и евро в обменниках враз дорожают на треть: к уже привычному плавному росту курсов добавился введенный властями 19 декабря 30-процентный сбор на покупку валюты.**

В СМИ гуляет выражение «черная пятница». Высокий чин тоном военной сводки сообщает, что на подлете самолеты с заказанной в зарубежных банках валютой.

Тем временем «народец» *(помните это вырвавшееся некогда в сердцах выражение официального лидера?)* с глазами бешеной кильки сметает с полок отечественных магазинов телевизоры, прочую электронику и бытовую технику, расхватывает мебель. Интернет-торговцы же не будь дураки сразу перешли на новый ценник, а операторы мобильной связи перестали продавать оборудование в рассрочку.

Для предприятий введена обязательная продажа 50% валютной выручки. Предварительно до 1 февраля заморожен внебиржевой валютный рынок.

Эксперты прогнозируют появление серого рынка валюты, всплеск инфляции и букет прочих прелестей.

Короче, страна перед Новым годом на ушах. И такой вот дурдом, заметьте, периодически повторяется на воспетом пропагандой «островке стабильности».

**Так что же это было?**

*«Фактически это девальвация для населения»*, — заявил в комментарии для Naviny.by эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич.

По его словам, Александр Лукашенко таким образом «стал заложником своих страхов». Он весь год сопротивлялся предложениям специалистов девальвировать национальную валюту, чтобы спасти экспорт и т.д.

Хотя это диктовала экономическая логика, руководитель государства по опыту знает, что «девальвация очень непопулярна у населения, бьет по имиджу власти», отмечает аналитик. Потому он жертвовал экспортом, финансовым положением предприятий.

Но в итоге, когда прижали обстоятельства, было избрано, по мнению Карбалевича, самое неудачное решение. Предприятиям лучше не станет — и вместе с тем нанесен удар по интересам населения. Что неизбежно ударит рикошетом и по имиджу руководства страны. Причем перед президентскими выборами.

**Эксперт: мы просто живем не по средствам**

Почему же наверху выбрали самый нелепый вариант стыдливой полудевальвации?

Дело не в том, что в Нацбанке и Минфине сидят бездари да профаны. Но эти структуры у нас — лишь звенья вертикали, подчиненной воле одной персоны.

*«Ипосудите, какойуних выбор, если жестко поставлена задача не допустить девальвации, а вместе с тем надо как-то спасать золотовалютные резервы?»* — риторически спрашивает финансовый аналитик Сергей Чалый.

В итоге, отметил он в комментарии для Naviny.by, *«мы вернулись в ситуацию марта 2011 года, когда можно было стыдливо делать вид, что курс доллара не изменился»*.

Причины нынешней финансовой турбулентности у нас, по мнению эксперта, не только в том, что российский рубль резко ослаб, а ушлые белорусы ломанулись к восточным соседям на ставший выгодным шопинг (вывозя при этом валюту из страны).

Сценарий 2011 года повторяется потому, что *«мы и тогда, и теперь живем не по средствам»*, считает собеседник.

Он объясняет: *«Мы, например, проигрываем китайцам по доле оплаты труда в затратах на выпуск продукции»*. В итоге производим вещь, которая по качеству близка к китайской, но цену имеет близкую к европейской. И кто это будет покупать?

По прикидкам эксперта, чтобы наш экспорт был более менее конкурентным (да и то если вынести за скобки потребительские свойства товара), средняя зарплата белорусов должна находиться в районе 300 долларов, то есть быть вдвое ниже, чем сейчас.

Но вы же сами понимаете: для руководителя страны, некогда привязавшего показатель благосостояния соотечественников к проклятой заокеанской валюте и пообещавшего тысячу долларов заработка на нос к 2015 году, это означало бы полное фиаско.

**Это могут быть только цветочки**

И все же никакому популисту не удалось еще обмануть экономику. Если Россия будет и дальше валиться, то до выборов-2015 белорусским властям, возможно, придется идти и на классическую девальвацию.

К слову, сегодняшние слова Лукашенко можно трактовать как намек. *«Вы не переживайте: чтобы ни случилось в нашей стране, даже если худший сценарий будет, мы все равно за полгода стабилизируемся…»* — заявил он при посещении Государственного комитета судебных экспертиз.

И еще один акцент: *«…Все зависит от наших людей: будет девальвация, не будет, обрушим, не обрушим, обвалим, не обвалим. Это наши люди, я в свое время об этом уже говорил: не бегайте как оглашенные с этим рублем по обменникам и не обменивайте на валюту, не торгуйте, потому что это будет иметь последствия…»*.

Так что не удивляйтесь, если через какое-то время из уст президента прозвучит: я же вас предупреждал! Естественно, виноватым снова окажется «народец».

Даже в случае классической девальвации население вряд ли массово выйдет на улицы, полагает Карбалевич. Но вот как люди проголосуют на выборах, добавляет он, большой вопрос.

Собеседник Naviny.by напоминает, что в сентябре 2011 года, когда белорусский рубль стремительно обесценивался, рейтинг Лукашенко по данным НИСЭПИ упал до исторического минимума — 20,5%.




Но тогда не было выборов, а теперь, по словам политолога, выборы-2015 могут обрести интригу. *«У оппозиции появляется шанс навязать властям серьезную политическую драку»*, — подчеркивает Карбалевич.

Представьте себе, что единый кандидат от оппозиции сравнивается по рейтингу с действующим президентом: у обоих по 20%. Это совсем другая политическая ситуация в стране. При таком соотношении сил чиновникам страшно фальсифицировать, а людям в погонах — усердствовать по части подавления недовольства масс.

И, к слову, уже не кажется фантастикой сценарий переноса выборов на более ранний срок (как в старом анекдоте: *«Наливай, пока не началось!»*).

**Экономика под пистолетом политики**

Эта игра датой выборов может облегчить электоральную задачу Лукашенко, но отнюдь не проблемы экономики. Дежавю в духе 2011 года, когда после очередной победы бессменного президента произошла обвальная девальвация, а гиперинфляция достигла 109%, становится все вероятнее.

Беларусь оказалась в порочном кругу этих обвальных циклов, потому что заблокированы давно перезревшие экономические реформы. Мы имеем дело с системой, которая может работать только по принципу отрубания хвоста в несколько приемов. Это происходит из-за боязни пресловутой дестабилизации, а проще говоря — потери насиженных кресел.

В итоге терпеливый «народец» расплачивается по полной программе. Недавно вслед за восточными соседями многие у нас млели от восторга, что «Крым наш». Не просчитывая на два хода вперед: Запад не простит агрессии, начнет валить российскую экономику, а за ней ляжет и наша.

Россия расплачивается, по крайней мере, за имперские замашки. А наш «народец» за что? За привязку страны к сырьевой, корумпированной и агрессивной восточной соседке. И за то, что позволяет вить из себя веревки.

Так что если смотреть в корень, то все эти сборы-поборы на самом деле — налог на политическую инфантильность белорусов.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**http://naviny.by**

ВАЛЮТНЫ КРЫЗІС

# МЫ ДОШЛИ ДО ПОЛНОГО АБСУРДА

**Причины сегодняшних кризисных явлений на финансовом рынке Беларуси — внутренние. Такое мнение высказал бывший глава Национального банка Беларуси Станислав Богданкевич. Станислав Богданкевич также сказал: «Цифры на табло в обменных пунктах показывают, до какого абсурда мы дошли»**

Это заявление он сделал 23 декабря во время заседания экспертного клуба, который организовала Объединенная гражданская партия.

«Причины наших проблем — внутри, а не вовне. Да, в российской экономике мы видим обвал, но его нет в США, в Китае, Европе. Мировая экономика растет на 3-3,5%. Так почему же наша экономика сегодня полностью зависит от ситуации в России? Наша внутренняя экономическая политика привела к этому», — подчеркнул Богданкевич.

Экс-глава Нацбанка критически оценил решение белорусских властей, которые, реагируя на ажиотажный спрос на валюту и девальвацию российского рубля, ввели 30-процентный сбор для физических и юридических лиц, уплачиваемый при покупке инвалюты.

«Шаг, сделанный властями, непродуманный. Совместное решение о введении 30-процентного сбора, которое приняло правительство и Национальный банк, привело к множественности курсов белорусского рубля. Официальный курс доллара один, на наличном рынке появился теневой сегмент, и там курс другой, для импортеров курс третий», — констатировал Богданкевич.

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук также критически охарактеризовал декабрьские шаги экономических властей, которые официально были направлены на стабилизацию ситуации на финансовом рынке.

«Введение 30-процентного валютного сбора, обязательной 50-процентной продажи валютной выручки, мораторий на повышение цен — это откат назад», — отметил Романчук.

Ситуация, которая складывается сегодня на финансовом рынке, подрывает доверие населения к финансовым институтам, считает эксперт.

«Цифры на табло в обменных пунктах свидетельствуют об абсурде, до которого мы дошли. Курс покупки доллара в обменных пунктах указан 13 700 рублей, курс продажи — 11 100 рублей. Когда простые люди такое видят, у них исчезает доверие к финансовым институтам», — подчеркнул Романчук.

Напомним, 23 декабря коммерческие банки Беларуси повысили по рекомендации Нацбанка курс покупки иностранной валюты на 25%. В результате принятого решения курс доллара в обменных пунктах и на черном валютном рынке практически сравнялся. Продают иностранную валюту населению белорусские банки сегодня, взимая 30-процентный сбор. Решение о введении валютного сбора, который обязаны клиенты банков уплачивать при покупке иностранной валюты, вступило в силу 20 декабря.

**Дмитрий ЗАЯЦ**
**naviny.by**

РЭАЛІІ РАЗВІЦЦЯ

# ВАЛЮТЫ ПАД ПОЎНУЮ ПАТРЭБУ НЯМА

**Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч заявіў, што эканоміка Беларусі не гатовая задаволіць попыт грамадзянаў на наяўную валюту, і ніколі не была гатовая да гэтага**

«Сёння ў насельніцтва ёсць выбар – ці не купляць долары, або купіць іх з 30% камісіяй. У нас у краіне столькі доляраў няма і не можа быць, каб задаволіць запыты на валюту ў поўнай патрэбе», – заявіў Мясніковіч у нядзелю ў эфіры тэлеканалу «Беларусь-1».

Ён нагадаў, што камісія не спаганяецца пры куплі валюты для разлікаў за імпарт нафты, нафтапрадуктаў, электраэнергіі і газу. «Такім чынам, энергетыка абароненая, уклады абаронены, гэта ж тычыцца заробкаў і пенсіяў«, – сказаў кіраўнік ураду, падае interfax.by.

Сёння 22 снежня падчас таргоў на Беларускай валютна-фондавай біржы попыт на долары ў 12 разоў перавышаў прапанову, падае «Наша ніва».

Прапанова склалася на ўзроўні $6,5 мільёна, а вось попыт амаль дайшоў да $80 мільёнаў. Таргі доларам на некаторы час былі прыпыненыя, у выніку Нацбанк зафіксаваў курс 10930 рублёў, на 30 рублёў больш, чым на папярэдніх таргах. Упершыню з лістапада мінулага года афіцыйны курс вырас так моцна.

**МЯ, belsat.eu, паводле interfax.by, nn.by**

ДЫКРЭТ №5

# «…ЭТО НЕ РАБСТВО, А ТЮРЬМА!»

**Юрист профсоюза радиоэлектронной промышленности Жанна Заприварина шокирована новым декретом Лукашенко. По ее мнению, разработчики документа видели в работниках не людей, а рабов. К каким последствиям может привести применение декрета № 5, который вступает в силу с нового года — выясняла «Салідарнасць».**

Александр Лукашенко 15 декабря подписал декрет №5 «Об усилении требований к руководящим кадрам и работникам организаций».

Как сообщили в пресс-службе главы Беларуси, документ направлен на искоренение бесхозяйственности, укрепление производственно-технологической, трудовой и исполнительской дисциплины, а также пресечение фактов трудоустройства недобросовестных руководителей на новую руководящую должность.

Ознакомившись с новым декретом Лукашенко, главный правовой инспектор Белорусского профсоюза РЭП Жанна Заприварина с трудом подбирает слова, чтобы его охарактеризовать:

— *Это даже не крепостное право, не рабство. Это тюрьма!*

По мнению юриста, работники белорусских предприятий и организаций всех форм собственности станут бесправнее в 10 раз.

— **Во-первых,** декрет будет способствовать массовым невыплатам премий работникам якобы за допущенные ими нарушения.

**Во-вторых,** если раньше об изменении существенных условий труда работника уведомляли за месяц, то теперь наниматель будет делать это за неделю. Например, за 7 календарных дней работника поставят в известность, что у него уменьшится зарплата, или теперь он будет работать по 12 часов в связи с производственной необходимостью.

**В-третьих,** наниматель может лишить премии на срок до 12 месяцев, отстранять работника от работы в случае нарушений, которые способны повлечь причинение организации ущерба.

**В-четвертых,** руководитель получит право увольнять работников, допустивших нарушение дисциплины, повлекшее причинение организации ущерба в размере, превышающем три среднемесячные зарплаты по стране. Сегодня Трудовой кодекс говорит только об одной среднемесячной зарплате на удержание по распоряжению нанимателя.

**В-пятых,** этот декрет дает нанимателям беспрецедентные меры, которые могут применять к работникам за нарушение технологической дисциплины. Этот декрет поясняет, что под производственно-технологической дисциплиной понимается соблюдение установленных технологических регламентов. Но сегодня работник может, сам того не желая, нарушить этот регламент, и за это его могут привлечь к ответственности.



Кроме того, декретом предусмотрено, что со стороны нанимателя признается грубым нарушением, влекущим безусловное привлечение руководителя организации к ответственности вплоть до увольнения. Это сокрытие (подмена) основания увольнения работника по причинам и при наличии оснований для его увольнения за совершение виновных действий.

Допустим, работник опоздал несколько раз, наниматель привлек его к дисциплинарной ответственности, но не уволил. Со вступлением этого декрета в силу наниматель за сокрытие такого увольнения несет ответственность. Теперь наниматель и работник не смогут договориться на увольнение по соглашению сторон. Наниматель обязан будет уволить работника за виновные действия.

**— Приведет ли это к массовым увольнениям?**

— С одной стороны, в Беларуси существует контрактная форма найма, при которой работник не имеет права по своему желанию уволиться. С другой стороны, заработает декрет №5. Работника зажимают в тиски со всех сторон, и он не может никуда с этого места уйти. Даже если ему уменьшат зарплату до минимума, он обязан там работать.

Декрет может привести к массовым увольнениям за виновные действия по дискредитирующим обстоятельствам. В соответствии с документом работник, занимавший должность, например, начальника отдела, после увольнения не сможет самостоятельно в течение пяти лет устроиться на новое место работы.

**— Получается, власти, объявившие борьбу тунеядству, толкают человека в объятия безработицы?**

— А если он будет занесен в разряд тунеядцев (этот законопроект сейчас широко обсуждается), то государство его обяжет бесплатно на него работать. Беспрецедентные случаи привлечения к принудительным работам могут приобрести массовый характер.

Собеседница «Салідарнасці» считает, что сегодня в Беларуси достаточно мер ответственности и способов привлечения работника к ответственности посредством норм Трудового кодекса.

По мнению собеседницы, уже сейчас нужно принимать незамедлительные меры и не допустить, чтобы этот декрет заработал.

— *Документ вступает в силу с 1 января 2015-го года. Осталось совсем мало времени.*

**Татьяна Гусева http://gazetaby.com**

БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# РЫНАК АБВАЛІЎСЯ І МЫ СЛЕДАМ ПАЛЯЦЕЛІ

**15 снежня Аляксандр Лукашэнка разгледзеў шэраг кадравых пытанняў, звярнуўся да прадстаўнікоў мясцовай вертыкалі ўлады і акцэнтаваў увагу на неабходнасці дыверсіфікацыі экспарту. Пра гэта паведамляе прэс-служба прэзідэнта.**

*"Год асаблівы, сітуацыя няпростая. Вы бачыце, як асела Расія, - гэта наш асноўны рынак, вы бачыце, што робіцца ў Украіне, - адзін з асноўных нашых рынкаў, вайна ідзе, ім сёння не да пакупак, тым больш складанабытавой тэхнікі і складанатэхнічнай прадукцыі - МАЗаў, БелАЗаў, трактароў і г.д., - адзначыў прэзідэнт. - Але гэта не значыць, што мы з вамі складзем рукі і будзем чакаць лепшых часоў - не! што толькі можна сёння - мы павінны зрабіць, каб уратаваць нашу вытворчасць і не выкінуць людзей на вуліцу ".*

Кіраўнік дзяржавы зноў акцэнтаваў увагу на неабходнасці дыверсіфікацыі экспарту.

*"Мы не можам увесь час маліцца на адну Расею, хоць гэта і братэрская нам краіна. Таму што, бачыце, адзін гэты рынак абваліўся і мы следам паляцелі. Так, у нас калі-сьці 85% прадавалася на расійскі рынак, сёння ўжо 40- 45%. Так, мы паменшылі залежнасць ад аднаго рынку, але, як відаць, гэта яшчэ мала. Плюс дадалася Украіна. Не думаю, што лепшая абстаноўка і ў Казахстане. Таму любой цаной мы павінны выходзіць на новыя рынкі. І гэта магчыма"*, - лічыць прэзідэнт.

Паводле яго слоў, пра гэта сведчыць і выхад шэрагу беларускіх прадпрыемстваў на амерыканскія рынкі. "Зняты ўсякія санкцыі, і мы з імі гандлюем. Значыць, можна", - сказаў ён.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што кіраўнікі мясцовай вертыкалі ўлады павінны таксама ўнікаць у працу прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі, нягледзячы на іх ведамасную падпарадкаванасць. *"Майце на ўвазе: чужых прадпрыемстваў на тэрыторыі вашых раёнаў няма. Яны ўсе вашыя. Вы ў гэтых раёнах прэзідэнты, - сказаў Аляксандр Лукашэнка. - Таму не саромейцеся туды заходзіць, патрабаваць ад іх: дайце вынік!".*

*"Сітуацыя, яшчэ раз падкрэсліваю, у свеце няпростая, а тым больш у нашым рэгіёне. Павінен сказаць, што такой сітуацыі наогул ніколі не было. І нам у гэтай сітуацыі трэба паказаць сваю заможнасць, - падкрэсліў прэзідэнт. - Наступны год - гэта наш іспыт. Як бы ні было складана, нас людзі павінны зразумець, а каб яны нас зразумелі, трэба даць вынік, як бы цяжка ні было ".*

Узгадняючы прызначэнне новага кіраўніка Магілёўскага завода "Строммашына" Уладзіміра Дземідзенкі, Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў шукаць новыя рынкі збыту прадукцыі, прычым рабіць гэта трэба з улікам запатрабаванасці тавараў. Прэзідэнт лічыць недапушчальнай сітуацыю, калі прадпрыемства працуе на склад. У сучасных умовах важна не проста вырабіць, але выгадна прадаць прадукцыю. І менавіта з гэтага трэба зыходзіць, выбудоўваючы стратэгію дзейнасці на перспектыву, перакананы кіраўнік дзяржавы.

Прэзідэнт запатрабаваў актыўнай працы і ад кіраўніка Адміністрацыі Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку Андрэя Галя. *"На тармазах працаваць не атрымаецца, нам трэба разгортваць Парк, калі прынята такое рашэнне. Кітайцы - за гэта"*, - адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Пры гэтым ён удакладніў, што ў Парку павінны быць прадпрыемствы з самымі высокімі сучаснымі тэхналогіямі.

*"Мы там задумалі вялікую справу, і яе трэба рэалізаваць. Але галоўнае - гэта ісці роўна. Зрабіце высновы з няправільнай работы Мінгарвыканкама мінулых гадоў, калі былі ваганні - дагадзіць каму-небудзь. Дагадзіць можна толькі адной - справе"*, - падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

**Чытаць цалкам: http://news.tut.by**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.12.2014 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.